наша
# свабода

№116(203) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

24 КАСТРЫЧНІКА 2001 года СЕРАДА

Адрас:
220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail:
NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



## Суд над выкрадальнікамі Завадскага


Фота Ул.ШЛАПАКА

Сёння пачынаецца працэс над былымі спецназаўцамі, якія абвінавачваюцца ў выкраданні аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага, а таксама ў іншых цяжкіх злачынствах. Аднак лёс Д.Завадскага папранейшаму застаецца невядомы.

Як ужо паведамлялася, працэс над байцамі спецыяльнага падраздзялення «Алмаз» Валерыем Ігнатовічам, Максімам Малікам, а таксама Сяргеем Савушкіным і Аляксеем Гузам будзе закрытым. Таму шмат якія падрабязнасці справы застануцца па-за нашай увагай. Тым не менш, следства так і не знайшло адказу на пытанне – што падазроныя асобы зрабілі з выкрадзеным аператарам.

Нагадаем, што зранку 7 ліпеня 2000 года аператар ОРТ Дзмітрый Завадскі скіраваўся ў нацыянальна аэрапорт «Мінск», каб сустрэць свайго калегу Паўла Шарамета. Аднак сустрэча не адбылася. На паркінгу каля аэрапорта была знойдзеная «шкода», што належала карэспандэнцкаму пункту ОРТ у Беларусі. Д.Завадскі знік.

*Заканчэнне на стар.3*

## У Пуціна няма часу на Лукашэнку

Плануецца, што першы пасля выбараў 9 верасня афіцыйны візіт прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ў Расію адбудзецца ў лістападзе. Тэрміны візіту цяперашнім часам узгадняюцца. Не выключана нават, што ён адбудзецца напачатку месяца. Некаторая нявызначанасць у гэтым пытанні звязаная з вельмі шчыльным працоўным графікам прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна, з якім кіраўнік беларускай дзяржавы мае намер сустрэцца ў Маскве. Што тычыцца праграмы візіту, то яна таксама зараз удакладняецца. Пакуль вядома, што асноўная ўвага падчас сустрэчы двух прэзідэнтаў будзе нададзеная аналізу выканання раней дасягнутых дамоўленасцяў, разгляду перспектыўных праграмаў эканамічнага супрацоўніцтва і пытанням павышэння эфектыўнасці Саюзнай дзяржавы. Апрача таго, па некаторых звестках, гутарка пойдзе аб тым, як змяненні ў стасунках паміж Расіяй і ЗША, што адбыліся пасля 11 верасня, паўплывалі ці паўплываюць на лёс Саюзнай дзяржавы. Мяркуючы па ўсім, разгляд гэтага пытання ініцыруе беларускі бок.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

**ІНТЭГРАТАР**

## Казахстан не хоча ў Саюз

«Годам вялікіх поспехаў» назваў бягучы год у гісторыі сваёй краіны Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Казахстана ў Беларусі Уладзімір Алесін.

23 кастрычніка на прэс-канферэнцыі ў Мінску, прысвечанай Дню Рэспублікі Казахстан, пасол паведаміў, што за 9 месяцаў 2001 года рост ВУП у Казахстане склаў больш за 14 працэнтаў. Па шэрагу найважнейшых паказчыкаў Казахстан зараз займае лідзіруючае становішча ў СНД: напрыклад, тут самая высокая сярэднемесячная зарплата – 130 доляраў ЗША. Гэта пры тым, што, як заўважыў Алесін, цэны на прадукты харчавання ў Казахстане ніжэйшыя, чым у Беларусі. Апрача таго, у адрозненне ад Беларусі, у Казахстана і станоўчае сальда знешняга гандлю. У гэтую краіну актыўна ідуць знешнія інвестыцыі. З моманту абвяшчэння незалежнасці ў эканоміку Казахстана ўкладзена 13 мільярдаў доляраў ЗША, у тым ліку ў 2000 годзе сума інвестыцый склала 2 мільярды, а з пачатку бягучага года – 1,5 мільярда доляраў ЗША. Еўрапейскі Саюз, па словах пасла, прызнаў Казахстан першай з краін СНД дзяржавай з рынкавай эканомікай. Гэта не дзіўна – 75 працэнтаў прадпрыемстваў у Казахстане маюць недзяржаўную форму ўласнасці.

На пытанне журналістаў, ці гатовы Казахстан далучыцца да Саюза Беларусі і Расіі, пасол адказаў: «Цяпер далучэнне да Саюза Беларусі і Расіі не апавядае інтарэсам казахскай дзяржавы. Любое аб'яднанне павінна быць прыцягальным. Для нас такім аб'яднаннем з'яўляецца Еўраазіяцкае супольніцтва». Гэта, па словах Алесіна, выклікана тым, што рынак у Еўраазіяцкім супольніцтве большы, чым у беларуска-расійскім саюзе. Апрача таго, у Еўраазіяцкім супольніцтве ўжо дасягнуты шэраг напрацовак, напрыклад, ужо ўзгоднены 80 працэнтаў эканамічных тарыфаў.

Закрануўшы знешні гандаль Казахстана з Беларуссю, пасол паведаміў, што летась тавараабарот паміж імі ўзрос у 1,6 раза, аднак сёлета сітуацыя пагоршылася. Гэта тлумачыцца перш за ўсё тым, што Беларусь зараз закупляе ў Казахстана збожжа значна меней, чым у папярэднія гады. Апрача таго, зазначыў Алесін, назіраецца даволі дзіўная сітуацыя, калі Казахстан набывае беларускія халадзільнікі, тэлевізары і іншую прадукцыю ў Расіі па больш нізкіх цэнах, чым тыя, якія прапаноўваюцца Казахстану ў Беларусі. Гэта таксама стрымлівае павелічэнне тавараабароту паміж дзвюма краінамі.

**Уладзімір ГЛОД**

## На БТ начался процесс созидания

Раньше Белорусское телевидение работало, по признанию его нового шефа, уроженца Новосибирска Егора Рыбакова, на разрушение, и к тому же выпускает, по оценке премьера Новицкого, множество пустых программ.

Премьер-министр Беларуси Геннадий Новицкий ждет от телевидения «конструктивного отражения действительности и конструктивной критики». Об этом Г.Новицкий заявил в ходе представления коллективу Белтелерадиокомпании нового руководителя Егора Рыбакова.

Оценивая работу телевидения, премьер отметил значительное количество «пустых», на его взгляд, программ как информационного, так и развлекательного и познавательного характера. Г.Новицкий обратился к работникам телекомпании с просьбой помогать правительству «бороться с психологией иждивенчества», которая, по мнению премьера, является одной из главных преград эффективному развитию экономики.

Пользуясь фактически первой встречей такого масштаба – с тележурналистами, – глава правительства изложил свои экономические подходы. В частности, Г.Новицкий высказался за поддержку предпринимательства, увеличение наукоемкости производства при снижении материало- и энергоемкости, а также стимулирование интереса к труду.

Новый глава Белтелерадиокомпании, занимавший ранее пост первого заместителя председателя МГТРК, отметил, обращаясь к сотрудникам, что на своем посту будет требовать «исключительно профессионализма и компетентности». Е.Рыбаков отказался «вести войну с кем бы то ни было». Он подчеркнул, что «с сегодняшнего дня на телевидении начался процесс созидания».

**Агентство «Ю.С. Ньюс» (www.yusnews.info)**

## Новицкий снова собирается в дорогу

*Не прошло и месяца со дня назначения, а новый премьер-министр Беларуси снова готовится совершить вояж за рубеж. Ожидается, что на этот раз в Россию. Но не в Москву, а в Калининград. Как известно, свой первый визит Геннадий Новицкий нанес в Киев, где встречался с украинским коллегой, мэром Киева и был принят президентом Леонидом Кучмой. По официальным сообщениям, в Киеве было подписано целых пять двусторонних документов. Однако должный эффект от этого визита был смазан одним заявлением белорусского премьера.*

Общеизвестно, что главной проблемой для Киева с Беларусью является до сих пор не ратифицированный Договор о границе, который белорусская сторона готова ратифицировать лишь в обмен на признание Украиной долга, оцениваемого Минском в 200 миллионов долларов. Так вот, новоиспеченный премьер Новицкий повторил по поводу ратификации Договора слова своего хозяина, которые продолжают оставаться сильным раздражителем в украинско-белорусских отношениях.

Отвечая журналистам, он сказал, что вопрос ратификации продолжает оставаться в компетенции белорусского парламента. Одним словом, существующая демократия в Беларуси не позволяет игнорировать мнение парламента. А уж насколько влиятелен и полномочен этот парламент – всему миру известно. По некоторым данным, после таких слов проводили Новицкого из Киева прохладно.

И вот, белорусский премьер должен предстать уже на более широкой международной арене. По поступающей из различных источников информации, в конце октября планируется провести в Калининграде встречу глав правительств России, Беларуси и Литвы. В последнее время стали говорить, что к ним может присоединиться и польский премьер. Тема ожидаемой встречи – дальнейшая судьба калининградского анклава после вступления Литвы в *NATO* и Польши – в Евросоюз.

Стоит напомнить, что после своего недавнего визита в Москву президент Польши Александр Квасьневский буквально на следующий день встретился в Каунасе с президентом Литвы Валдасом Адамкусом. Конечно, главной новостью были слова Путина о том, что Россия готова изменить свое резко отрицательное отношение к перспективе вступления балтийских государств в *NATO*.

Похоже, такой ход событий дезориентировал Лукашенко, который неоднократно заявлял о своей роли форпоста на границе с *NATO*. Антизападная риторика, столь свойственная белорусскому лидеру, перестала быть актуальной. И попутински солидаризироваться с США, Западом в целом, как-то не хочется, да и дико для него. Но прагматизм старшего брата не позволяет оставлять Беларусь в одиночестве. В частности, в связи с калининградской проблемой. Ведь географически ближе союзной Беларуси никого нет для российского анклава.

*Окончание на стр.3*

## Галоўнае для БТ – праграма Лукашэнкі

22 кастрычніка прэм'ер-міністр Беларусі Генадзь Навіцкі прадставіў калектыву Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі яе новага старшыню Ягора Рыбакова. Той у сваёй прамове падзякаваў за аказаны давер прызначаўшаму яго на гэтую пасаду прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку і сказаў, што цяпер пачынаецца новая гісторыя ў жыцці БТ, якое будзе ўсё рабіць, каб спрыяць выкананню перадвыбарнай праграмы кіраўніка дзяржавы.

## Ікра, якую здабываюць у Брэсце

На мінулым тыдні супрацоўнікі Брэсцкай мытні ў цягніку Масква-Варшава знайшлі буйную партыю чырвонай ікры. Яна заважыла на 170 кілаграмаў. Агульны кошт далікатэсу – каля 8,5 мільёна рублёў. Ягоныя гаспадары не выяўленыя. Дарэчы, жыхары Брэста змогуць паласавацца гэтай канфіскаванай ікрой, якая будзе рэалізаваная ў мясцовых крамах.

## Гарэлая «Беларусь»

21 кастрычніка з-за пагрозы пажару наведвальнікі – каля паўтысячы чалавек – мінскага універмага «Беларусь» былі тэрмінова эвакуіраваныя на вуліцу. У выніку кароткага замыкання адбылося разбурэнне ізаляцыі правадоў столевай свяцільні. Пластмасавы плафон пачаў плавіцца, унутры ўспыхвала полымя. Два курсанты Камандна-інжынернага інстытута МНС, якія выпадкова знаходзіліся на той момант у будынку, арганізавалі эвакуацыю людзей і ліквідавалі загаранне. Два гады таму ў «Беларусі» здарылася тое самае. Выснова – трэба мяняць свяцільні.

## Купіце в'етнамскую свінку

Гродзенскі заапарк распрадае жывёлаў. Так, у прыватныя рукі аддадзеныя пяць дзікіх парсючкоў. За дзесяць месяцаў яны набіраюць да 100 кілаграмаў вагі і становяцца досыць агрэсіўнымі, таму даўжэй іх трымаць не раяць. Заапарк яшчэ мае на продаж дзвюх в'етнамскіх свінак. Але іх пакуль што ніхто купляць не жадае.

## Беларускія тэатры паехалі «канфрантаваць»

Упершыню ўдзельнікамі міжнароднага фестывалю «Тэатральная канфрантацыя», які мае прайсці ў Любліне 24-27 кастрычніка, стануць два беларускія тэатры. Гэта Купалаўскі тэатр, які пакажа «Трыстана ды Ізольду», і Брэсцкі абласны тэатр драмы і музыкі з пастаноўкай «Саламея Русецкая».

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**
**1510**

# Суд над выкрадальнікамі Завадскага

*Заканчэнне, пачатак на стар.3*

Ужо на наступны дзень была ўзбуджаная крымінальная справа па падазрэнні аб забойстве аператара. Следства выйшла на былога спецназаўца Валерыя Ігнатовіча, аднаго з кіраўнікоў беларускага аддзялення Русского национального единства (РНЕ), партыі прафашысцкага ладу. У траўні 2001 года следчы Іван Бранчэль і намеснік генеральнага пракурора Міхаіл Снягір заявілі, што пасля паўторнага перагрусу ў машыне В.Ігнатовіча знайшлі сапёрную рыдлёўку з слядамі крыві Д.Завадскага.

Справа аб зьнікненні расійскага тэлежурналіста амаль адразу абрасла скандальнымі падзеямі і заявамі. Спачатку Аляксандр Лукашэнка паабяцаў знайсці Завадскага – любой цаной. Гэтага ж ён патрабаваў – «кроў з носу» – ад сілавых структураў. Але ўжо даўно кіраўнік дзяржавы не прыгадвае пра гэтае сваё абяцанне.

Затое амаль год таму ён зняў з пасадаў генеральнага пракурора і старшыню КДБ – нібыта за тое, што кепска расследуюць знікненні людзей. Але насамрэч, як сведчылі сенсацыйныя прызнанні некаторых супрацоўнікаў сілавых структураў, — за тое, што, расследуючы зьнікненні Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і Дзмітрыя Завадскага, яны занадта блізка падабраліся да асобаў, якія маюць высокіх заступнікаў.

У якасці асноўнай такой асобы называўся камандзір вайсковай часткі 3214 унутраных войскаў МУС падпалкоўнік Дзмітрый Паўлічэнка. Па словах «перабежчыкаў», ён быў арыштаваны і дапытаны асабіста Алегам Бажэлкам і Уладзімірам Мацкевічам, ноч правёў у ізалятары КДБ, але ўжо на наступны дзень стараннямі А.Лукашэнкі і тагачаснага дзяржсакратара Савета бяспекі Віктара Шэймана выйшаў на волю. А тыя, хто яго затрымліваў, не толькі пазбавіліся сваіх пасадаў, але і трапілі фактычна пад хатні арышт.

У выніку, у якасці абвінавачваемых былі абраныя Валеры Ігнатовіч і яшчэ тры чалавекі, два з якіх таксама маюць «спецназаўскае» мінулае. Іх абвінавачваюць не толькі ў выкраданні і сілавым утрымліванні Д.Завадскага, але і ў забойствах, рабаўніцтвах, нападах на людзей і г.д. – усяго сем эпізодаў. Забойства расійскага журналіста ім не інкрымінуецца.

Афіцыйнае следства мяркуе, што асноўны матыў дзеянняў «групы Ігнатовіча» ў дачыненні да Д.Завадскага – «помста». Маўляў, аператар паведаміў сродкам масавай інфармацыі пра тое, што сустракаў былога беларускага «спецназаўца» ў Чачні. Вядома, што В.Ігнатовіч спачатку ваяваў на баку атрада Хатаба, а потым перайшоў на бок «федэралаў» і стаў расійскім кантрактнікам. Аднак імя Ігнатовіча тады ўзгадана не было, таму матыў «помсты» падаецца даволі надуманым. Іншых версіяў у следства няма.

Працэс будзе весці суддзя Мінскага абласнога суда Аляксандр Сіманаў. Беларуская асацыяцыя журналістаў збіраецца звярнуцца да яго з просьбай дапусціць прадстаўнікоў гэтай арганізацыі прысутнічаць на працэсе.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Хто будзе лідэрам у БНФ?



Пазачарговы Сойм БНФ «Адраджэнне», які адбыўся 22 кастрычніка, зацвердзіў палажэнне аб тым, што чарговы з'езд партыі пройдзе 15 і 16 снежня.

Пазачарговасць скліканне Сойма ўсяго праз тыдзень пасля папярэдняга была выкліканая тым, што ў мінулы раз не быў сабраны кворум, неабходны для прыняцця рашэнняў. Большасць сябраў Сойму яго праігнаравала. На гэты раз кворум быў сабраны. Вельмі істотным было пытанне аб дэлегаванні адпаведных квотаў на з'езд.

Так, у сярэдзіне снежня ў Мінск прыедзе, каб абмеркаваць стан партыі і выбраць новае кіраўніцтва, кожны пяты сябра БНФ «Адраджэнне». Але большую ўвагу ўсе звярнулі на іншы факт палажэння – рэкамендацыю аб тым, што кожны трэці дэлегат з'езда мусіць быць маладзейшым за 30 гадоў. І гэта вельмі празрысты намёк на 30-адсоткавую квоту на з'езд незарэгістраванага маладзёжнага крыла БНФ Маладога Фронту.

Што гэта можа азначаць менш чым за два месяцы да з'езда? Папершае, у кулуарах партыі, якая перажывае відавочны крызіс, ходзяць чуткі, што значная частка рэгіяналаў і маладафронтаўцы выступяць на з'ездзе з рэзкай крытыкай цяперашняй сітуацыі ў БНФ і прапануюць свае магчымыя змяненні ў стратэгіі і тактыцы. Ужо заявіў аб гэтым і адзін з мінскіх намеснікаў старшыні БНФ Вячаслаў Сіўчык, які, па чутках, і плануецца на змену цяперашняму старшыні Вінцуку Вячорку. Апірышчам Сіўчыка, па звестках з той жа крыніцы, можа стаць якраз Малады Фронт са сваімі 30-цю адсоткамі.

У каментары, які Вячаслаў Сіўчык даў НАШАЙ СВАБОДЗЕ, ён, у прыватнасці, сказаў: «Мяне не задавальняе дзейнасць арганізацыі за апошні год. БНФ зараз вельмі патрэбныя нейкія змены, каб спыніць дэвальвацыю самога паняцця «лідзіруючай партыі БНФ». Патрэбна новая тактыка дзеянняў, тактыка зносінаў з саюзнікамі. Што ж датычыцца таго, што квота маладых людзей на з'езд роўная 30 адсоткам – то я заўсёды толькі вітаў актыўны ўдзел моладзі ў жыцці партыі. Засцярогу выклікае толькі той факт, што ўпершыню за ўвесь час існавання Маладога Фронту пры БНФ дэлегатаў на з'езд будуць вылучаць не кіраўнікі маладзёжнай структуры, а рэгіянальныя, мясцовыя кіраўнікі. Да таго ж наконт 30 адсоткаў – гэта толькі рэкамендацыя не абавязковая для выканання».

На пытанне наконт вылучэння сваёй кандыдатуры на пасаду старшыні БНФ «Адраджэнне» Вячаслаў Сіўчык адказаў: «Пакуль што казаць аб гэтым зарана. Але сваю праграму развіцця партыі на з'езд я прынясу. І праграма будзе ўтрымліваць палажэнні аб неабходных зменах».

**Віктар СЕВЕРЦАЎ**

# Новы наступ на прадпрымальнікаў

*У Беларусі аднавіўся эканамічны ціск на дробных прыватных прадпрымальнікаў. Распачаўся ён з найбуйнейшага рынку краіны «Ждановічы», дзе супрацоўнікі кантрольных органаў правялі ў мінулыя выходныя праверкі ды арышты тавару.*



Перасьлед гандляроў рынку «Ждановічы» ўчынілі супрацоўнікі аддзелу барацьбы з эканамічнай злачыннасьцю. Вось што распавёў сёньня нашаму радыё прафсаюзны лідэр мясцовых прадпрымальнікаў Анатоль Шумчанка: «Да выбараў нас ніхто не чапаў. І ўсе казалі пра тое, што нарэшце надышла свабода прадпрымальніцтва — што ня трэба мець на працоўным месцы дакумэнтаў, якія пацьвярджаюць набыцьцё тавару, ня варта мець накладных. Але вось у суботу была арыштаваная гандлёвая кропка — за тое, што не было накладной на тавар. Адным словам, пачаўся наезд на прадпрымальнікаў. У нядзелю вельмі многіх узялі на «Ждановічах».

Як вядома, напярэдадні выбараў беларускія ўлады пайшлі насустрач дробнаму бізнэсу. Прынялі дэкрэт ад адзіным падатку, які меў станоўчую ацэнку ў прадпрымальніцкім асяродку. Як вынік, пэўная частка гандляроў, паводле іхных зьвестак, аддала свае галасы Аляксандру Лукашэнку.

Як лічыць спадар Шумчанка, прадпрымальнікаў увялі ў зман, паколькі зараз улада зноў распачала зь імі змаганьне. Паводле ягоных словаў, барацьбіты з эканамічнай злачыннасьцю кіраваліся новым дакумэнтам Камітэту дзяржаўнага кантролю. Гэты дакумэнт прадпісвае вяртаньне да старых парадкаў у пытаньні кантролю прадпрымальнікаў: «Мы мусім мець дакумэнты, што пацьвярджаюць набыцьцё і наяўнасьць тавараў на дадзены момант. А таксама дакумэнты на якасьць. Калі гэтага няма, то тавары забіраюць у даход дзяржавы. Інакш кажучы, мы вяртаемся да дэкрэту №14, які быў выдадзены Лукашэнкам чатыры гады таму і супраць чаго мы шмат разоў пратэставалі, ладзілі страйкі. Паводле гэтага дэкрэту праводзіцца канфіскацыя».

Дарэчы, зьдзіўленьне гандляроў выклікаў той факт, што рэпрэсіі супраць іх распачаліся літаральна на наступны дзень пасьля сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі з прадпрымальнікамі краіны. Лукашэнка, як вядома, паабяцаў на гэтай сустрэчы лібэралізаваць айчынны бізнэс. Як вынікае зь ягонага тлумачэньня, меркаванае разьняволеньне прадпрымальніцкай дзейнасьці ўключае і паслабленьне кантролю.

Насамрэч, як зазначыў Анатоль Шумчанка, у краіне аднаўляецца эканамічны ціск на прадпрымальнікаў. Сёньня ж пацярпелыя гандляры пратэст пра свой перасьлед накіравалі ва ўрадавыя структуры.

**Міхал СТЭЛЬМАК**
**Радыё «Свабода»**

# Лукашенко захотел экономического чуда

*Белорусские власти продолжают убеждать всех в своей рыночной ориентации. Так, президент страны пообещал провести в 2002 году амнистию вывезенного за рубеж капитала. Дело, конечно, не в смене экономических воззрений Лукашенко – просто Беларуси никто денег не дает.*

Из бывших советских республик амнистию капитала пока что провел только Казахстан, причем с большим успехом. Летом 2001 года на предложение Нурсултана Назарбаева вернуть капиталы на родину откликнулись порядка 3 тыс. граждан. За месяц они перевели на специальные банковские счета 480,2 миллиона долларов (причем 88% – в виде долларовой наличности). В числе участников этой акции оказался даже глава налогового ведомства, который в бытность предпринимателем, по его собственному признанию, часто пользовался «схемами минимизации налоговых платежей» с большой для себя выгодой.

Другие страны СНГ амнистию капиталов еще не объявляли, хотя и высказывали намерения такого рода. В России, например, об этом то и дело вспоминают члены думской фракции «Яблоко». Однако в ближайшее время правительство, похоже, ничего такого проводить не планирует – видимо, не уверено в успехе этого мероприятия.

Казахские власти, например, пообещали уничтожить декларации о доходах за прежние годы всех участников амнистии, и те им поверили. Сомнительно, чтобы на аналогичные обещания пошли другие налоговики – равно как и то, что эти обещания будут адекватно восприняты бизнесом.

У Беларуси же проблемы совершенно иного рода: нефтедолларов у нее нет, а те, что есть в России, до нее в форме инвестиций и кредитов как-то не доходят – несмотря на существование Союзного государства и громкие декларации о российско-белорусской экономической интеграции. О западных деньгах и говорить не приходится: если уж МВФ заморозил финансирование белорусской экономики с 1996 года, частные инвесторы в Беларусь и подавно не пойдут.

В ходе недавней встречи с белорусскими предпринимателями он заявил: «На следующий год мы объявим амнистию капитала. Пока на год, а там посмотрим. Но кто захочет прийти в страну, тот придет в течение 2002 года. Это твердое мое обещание».

Фрагмент встречи Лукашенко с бизнесменами транслировало белорусское телевидение в воскресенье вечером. В этом же телеэфире замглавы президентской администрации Ленид Козик сказал, что вопрос легализации капитала еще не до конца проработан, «но смысл в том, чтобы деньги, хранящиеся в других государствах, могли прийти без проверок и деклараций».

Тот же Козик, кстати, высказал уверенность, что за 2002 год внутренние белорусские инвестиции составят 300 миллионов долларов – очевидно, имея в виду, что эти деньги возвратятся в белорусскую экономику из-за границы. «Зачем выпрашивать 50 миллионов долларов у МВФ, который ничего не дает?» – добавил он.

Мысль здравая. Правда, здесь было бы уместно задаться вопросом: а почему, собственно, белорусские деньги оказались за рубежом?

Белорусские власти, за последние годы доигравшиеся до международной изоляции, сейчас пытаются решить эту проблему методами, доступными их пониманию. Еще до избрания Лукашенко на нынешний срок крупные чиновники регулярно каялись в «забюрократченности» и обещали упростить регистрацию новых предприятий в стране. А сам президент на встрече с предпринимателями посулил им льготную квоту акций при приватизации крупных привлекательных предприятий с участием российского капитала: «Если будет продаваться 60% акций, то 20% мы предложим вам на более выгодных условиях. Потому что наши беднее, чем те, кто по соседству».

В то же время Лукашенко в очередной раз повторил, что Беларусь сохранит государственный контроль в промышленности. «Обвальной приватизации не будет – речь идет об одном-двух предприятиях», – сказал он.

Так что иллюзий насчет либерализации экономических взглядов белорусского президента строить не надо, равно как и по поводу предстоящей амнистии капиталов. Раз в голове белорусского президента все осталось по-прежнему, о каком доверии предпринимателей к этой амнистии может идти речь?

**Ольга ПРОСКУРНИНА**
**Газета.Ru**

# Новицкий снова собирается в дорогу

## *В ближайшее время белорусскому премьеру предстоит серьезный экзамен*

*Окончание, начало на стр.1*

Поэтому участие Беларуси в начинающемся переговорном процессе по данной проблеме выглядит логичным.

Можно вспомнить, что во времена, когда еще Польша не была членом NATO, Москва пыталась при помощи Минска стимулировать планы создания транспортного коридора в Калининградскую область через польскую территорию. И чтобы этот коридор обладал экстерриториальностью, другими правами. Ну, что-то вроде былой связи Западного Берлина с остальным миром. Естественно, стратегическое значение Беларуси для России при этом бы только возросло. Как полагают некоторые эксперты и всемерная зависимость тоже.

В связи с предстоящей калининградской встречей особый интерес может вызывать та роль, которую готовится сыграть на ней белорусский премьер Новицкий. Что касается российского, то, говорят, он должен представить федеральную программу развития Калининградской области. Очевидно, которая предусматривает заманчивые инвестиционные проекты.

Странной представляется та атмосфера секретности этой встречи, которой ее окутывают белорусские власти. Пока остается неизвестным, кто будет сопровождать Новицкого во время визита в Калининград. И планируются ли в Калининграде двусторонние встречи премьеров.

Для находящегося в изоляции Минска такие встречи, впрочем, как и общая, могли бы стать прорывом в Европу. Можно предположить, что завеса секретности Минска вызвана нешуточным его волнением в ожидании такого прорыва. Насколько сильно затронет это волнение разговорчивого Новицкого, должна продемонстрировать сама предстоящая встреча. Надо полагать, его красноречие и образ мышления смогут оценить по достоинству коллеги-собеседники.

Как отмечают некоторые наблюдатели, еще весной российский премьер Касьянов на заседании исполкома Союза России и Беларуси обмолвился, толком не уточнив, о каких-то вопросах функционирования так называемого союзного государства на территории Калининградской области. Можно предположить, что Касьянов имел в виду не только область военного сотрудничества России с Беларусью.

Большое значение в деле оживления российского анклава придается калининградскому порту. Если удастся решить или хотя бы договориться премьерам о механизмах решения транзитных проблем, то для Беларуси это будет означать выход к морю. И столь нелюбимый руководством Беларуси экс-губернатор, передумавший в свое время принимать высокого белорусского гостя, а ныне начальник калининградского порта Горбенко уже никакого значения для Лукашенко иметь не будет. Для него будет важно развить встречу премьеров четырех стран во встречу их президентов. Это и будет для всех означать признание Европой итогов последних президентских выборов в Беларуси.

Есть еще один момент, который вызывает интерес к предстоящей поездке Новицкого. Не так давно федеральный центр внес новизну в систему управления Калининградской области, входящей в Северо-Западный федеральный округ. У губернатора Егорова появился дополнительный президентский соглядай в чине заместителя полномочного представителя президента РФ. В связи с этим губернатор открыто выступил с критикой такого решения президента. Довольно редкое явление для путинской России. Но есть основания подозревать, что у Егорова может появиться еще один высокопоставленный чиновник. На этот раз не федеральный, а союзный.

Видимо не зря Касьянов обмолвился о функционировании так называемого союзного государства. Вспоминаются и как бы так сказанные слова Лукашенко о том, что отставленного премьера Ермошина ждет важная работа на российском направлении. Не исключено, что циркулирующие слухи о возможной замене госсекретаря российско-белорусского союза Павла Бородина на Владимира Ермошина могут скоро материализоваться. Почему бы экс-премьеру Беларуси не стать полномочным представителем Лукашенко в некогда Восточной Пруссии?

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

